26 ТРАЎНЯ 1999г. СЕРАДА

# НАВІНЫ

№57 (588) КОШТ СВАБОДНЫ



стр.3

# «Паляванне» на людзей у форме

## Складваецца ўражанне, што беларускім сілавікам нехта абвясціў вайну. За апошнія дзесяць дзён забіты ўжо другі міліцыянер

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Учора ўначы ўся мінская міліцыя была ўзнятая па трывозе — падчас патрулявання быў забіты старшы сержант Леанід Касабуцкі.**

Як нам паведамілі ў прэс-цэнтры Мінскага ГУУС, трагедыя адбылася на 2-м завулку Багратыёна. У ноч з панядзелка на аўторак старшы сяржант патрульна-паставой службы Партызанскага аддзела ўнутраных справаў Леанід Касабуцкі з напарнікам патрулявалі вуліцы на тэрыторыі свайго раёна. Недзе а палове другой яны звярнулі ўвагу на падазронага суб'екта і пагналіся за ім. Невядомы пачаў адстрэльвацца. Першым пад кулі злачынцы патрапіў Леанід Касабуцкі. Усё адбылося імкліва, напарнік не паспеў прымяніць зброю і злачынцу ўдалося ўцячы. Ён пабег у бок Батанічнага сада. На выгляд яму каля 25 гадоў, хударлявага целаскладу, цёмнавалосы, апрануты ва ўсё цёмнае. Машына «Хуткай дапамогі», якую выклікаў міліцыянер, прыехала праз 20 хвілін і даставіла цяжка параненага Л.Касабуцкага ў 6-ю бальніцу, дзе ён ад атрыманых раненняў памёр.

Учора міліцыя актыўна займалася пошукам злачынцы. Аднак у ГУУС нам адмовіліся патлумачыць, як канкрэтна ў амаль двухмільённым Мінску можна знайсці невядомага з пісталетам, які ўначы адкрыў пальбу. «Няхай гэта будзе нашым прафесійным сакрэтам», — кажуць яны. Няхай. Вось толькі ўсё больш небяспечна адчуваеш сябе на вуліцах сталіцы, калі нават міліцыя не можа надзейна абараніць сябе. Усяго тыдзень таму мы пісалі пра забойства міліцыянта Аляксандра Жыдзіка, і цяпер — новая трагедыя. Усяго ж з пачатку года ўжо тры міліцыянты былі забітыя пры выкананні службовых абавязкаў.



Акцыя па вышуку злачынца ператварылася ў дэманстрацыю сілы праваахоўных органаў

Як нам стала вядома, ўчора да пошукаў забойцы міліцыянера падключыўся і спецназ. Байцы спецназа, апранутыя ў шлемы і бронекамізэлькі, але ўзброеныя толькі гумавымі дубінкамі, ачапілі даволі вялікі раён горада: уздоўж праспекта Скарыны ад Акадэміі навук да аўтастанцыі Маскоўская і ўздоўж вуліцы Сурганава ад Акадэміі навук да вуліцы Радыяльнай. Байцы ў ачапленні стаялі па адзін-два чалавекі праз кожныя 50-100 метраў у межах бачнасці. Па іхніх словах, фотаробат злачынцы ўжо зроблены. ■



Фота REX/ProMedia

### ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### БХК рыхтуе з'езд

29 траўня Беларускі Хельсінкскі камітэт у сваёй штаб-кватэры будзе праводзіць нечарговы з'езд. Асноўнымі пытаннямі стануць сітуацыя ў краіне ў галіне правоў чалавека і перарэгістрацыя арганізацый міністэрствам юстыцыі.

*Аляксей ШЫДЛОЎСКІ*

### Паўнамоцтвы Украіны ў Савеце Еўропы пад пытаннем

Камітэт Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы па маніторынгу рэкамендаваў прыпыніць паўнамоцтвы ўкраінскай дэлегацыі ў Савеце Еўропы. Як паведаміла агенцтва УНІАН, дакладчыкі камітэта лічаць, што краіна не дасягнула прагрэсу ў выкананні абавязацельстваў, узятых пры ўступленні ў Савет Еўропы. Украінскія ўлады няздольныя выконваць абавязацельствы па правядзенні прававых рэформаў і адмене пакарання смерцю. На пасяджэнні сесіі ПАСЕ ў Страсбургу ў канцы чэрвеня будзе вынесена канчатковае рашэнне па Украіне з улікам высноваў маніторынгавага камітэта.

*Аддзел інфармацыі*

### Захаранку шукаюць па-рознаму

Дагэтуль не ўзбуджаная крымінальная справа па факце знікнення Юрыя Захаранкі. Гэта пацвердзілі ў прэсавай службе мінскай гарадской міліцыі са спасылкай на крымінальны вышук Кастрычніцкага раёна, на тэрыторыі якога бясследна знік экс-міністр унутраных справаў. Нагадаем, Захаранка «згубіўся» яшчэ 7 траўня. Апазіцыя лічыць, што з былым міністрам «разабраліся» спецслужбы. Улада кажа пра крымінальную версію ці пра тое, што Захаранка хаваецца ад узбуджанай супраць яго справы. Між тым сапраўдныя пошукі былога міністра вядзе толькі грамадская камісія створаная апазіцыяй. Знойдзеныя гэтай камісіяй сведкі кажуць, што бачылі, як Захаранку «схапілі 5–6 невядомых у цывільным». На жаль, гэтыя паказанні міліцыю пакуль не зацікавілі.

*Алесь ПАЎЛОВІЧ*

### СВЯТКАВАННІ

# Сустрэнем, калі хопіць грошай

## На дзяржаўным узроўні распрацаваны план сустрэчы новага тысячагоддзя і 2000- годдзя хрысціянства

Алесь ДАШЧЫНСКІ

Нацыянальны аргкамітэт узначальвае прэм'ер-міністр С.Лінг. Сярод шэрагу запланаваных мерапрыемстваў можна хіба выдзеліць правядзенне трэцяга з'езду беларусаў свету, але гэтая імпрэза адбудзецца, калі нашыя суайчыннікі захочуць прыехаць у нашую краіну. Значная ўвага у плане мерапрыемстваў удзеленая праваслаўнай царкве. Дзяржава збіраецца аказаць садзеянне ў перадачы культавых ды іншых пабудоваў у адпаведнасці з планам дапамогі Беларускаму экзархату. Напрыклад, Магілёўскай праваслаўнай епархіі мяркуецца перадаць дом Каніскага. Калі хопіць грошай, то будзе завершана рэстаўрацыя на 12 культавых аб'ектах, з іх восем праваслаўных цэркваў і чатыры касцёлы. Дзяржава акажа таксама дапамогу ў стварэнні праваслаўнага культурна-духоўнага цэнтра ў Віцебску, будуць надрукаваныя альбомы праваслаўных і каталіцкіх святыняў. Таксама мяркуецца падтрымаць рамонт катэдральнага касцёла у Гродне і Нясвіжы. Каб не пакінуць паза ўвагай іншыя канфесіі дзяржкамітэт па нацыянальнасцях і рэлігіі правядзе круглы стол пра этнаканфесійную сітуацыю ў нашай краіне на парозе новага тысячагоддзя. ■

### Крестный ход могут остановить боевики УНА-УНСО

Егор ИВАНОВ

Праворадикальная организация УНА-УНСО намерена активно противодействовать проведению на территории Украины Крестного хода, который организует по территории России, Украины и Белоруссии Русская православная церковь в честь 2000-летия Христианства. Члены УНА-УНСО намерены препятствовать участникам крестного хода пересечь украинско-российскую границу.

Крестный ход начался 22 мая в Твери (Россия), затем пройдет по городам Поволжья, через украинские города Мариуполь, Севастополь, Херсон, Черкассы, Канев, Киев. Завершится ход в середине сентября в Москве.

Против прохождения крестного хода по территории Украины ранее высказался глава Украинской православной церкви (Киевский патриархат) Филарет. ■

### НАДВОР'Е




**27 траўня** па **Мінскай, Гродзенскай** і **Брэсцкай** абласцях чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, вецер заходні, 3–8 м/сек. Тэмпература паветра ноччу 4–9 градусаў цяпла. Па **Гомельскай, Магілёўскай** і **Віцебскай** абласцях пераменная воблачнасць, месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы, вецер паўночна-заходні, 5–10 м/сек. Тэмпература паветра ноччу 5–10 градусаў.

### Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

**440 000**

СЕРАДА



З АЛЯКСАНДРАМ ДУБРАВІНЫМ

## Слёзы капалі

Выбары новага прэзідэнта не атрымаліся. І не маглі атрымацца, сказаць па-праўдзе. Немагчыма іх правесці нармальна там, дзе пануе беззаконне і гвалт.

Шкада? Вядома, шкада. Але ж не смяртэльна. Будзе дзень, будзе і новы прэзідэнт. Свята месца пуста не бывае.

Дык вось, рэакцыя на гэтую падзею некаторых сталічных выданняў была яўна неадэкватнай. Адчай, перадсмяротныя стогны, енк і жальба. Заламала ў роспачы свае белыя рукі паважаная «БелДелГаз», аблілася слязьмі шаноўная «БелГаз». Лейтматыў вядомы: «Апазіцыя загінула! Капцы! Нечуваная параза дэмакратыі! Лукашэнку выбяруць прэзідэнтам ўсё роўна. Дыктатура будзе, пакуль мы не памрэм. Дзе выйсце? Што рабіць?».

Самае лепшае выйсце ў такім выпадку: зняць штаны, плакаць і бегаць вакол вядомага будынка на Карла Маркса. Тады адразу ўсё наладзіцца само сабой. Нехта прыйдзе і выратуе нас ад Лукашэнкі. І дэмакратыя сама сабой усталюецца. І будзе шчасце тысячу гадоў.

Хачу папярэдзіць адразу: я не супраць крытыкі Ганчара, хода выбарчай кампаніі ці іншых дзеянняў апазіцыі. Я супраць слюнявасці і плаксізму ў так званым незалежным друку. Супрацьўленне рэжыму вымагае нейкай мужнасці. Мне здаецца, што вытрымка, асцярожны аптымізм і цвярозая разважлівасць ніколі не шкодзяць аналітыкам, палітыкам і журналістам, тым больш тым, якія пішуць для народа у папулярныя газеты. І аптымізм у гэтай справе рэч не апошняя. Калі з раніцы да вечара табе прамываюць мазгі дзяржаўныя сродкі прапаганды ды агітацыі за Лукашэнку, і гэты бруд льецца адусюль проста на галаву, дык хочацца, часам, паслухаць спакойнага разумнага чалавека з нейкімі канструктыўнымі прапановамі і лагічнымі высновамі, а не запалошаную кабету з гістэрыкай.

Асабліваe замілаванне выклікае заўчасная гатоўнасць некаторых незалежных журналістаў аддаць перамогу Лукашэнку на чарговых выбарах прэзідэнта. Якіх ён, між іншым, чамусьці вельмі баіцца. Мабыць таму, што ўжо дакладна вылічыў: на сумленных выбарах яму нічога не свеціць. Іншая справа – выбары па-лукашэнкаўскі, з выкручваннем рук, заўчасным галасаваннем, падманам, падтасоўкай, хітрыкамі з бюлетэнямі і г.д. У гэтым яму роўных не будзе нават пры выбарах Прэзідэнта Ўсёй Зямлі. У такім разе можна і не рыпацца. Дык што, будзем здавацца, або паваюем? А калі не здаёмся, дык за што змагаемся, калегі? Ці можа ўжо і не змагаемся, а рэфлексіруем? Або рэзаніруем?

Пессімізм, мізантрапія, меланхолія звычайна агортваюць людзей слабых, хворых, і асабліва галодных курцоў. Таму першае патрабаванне да журналіста перад напісаннем артыкула: схадзі ў сталоўку і паеш, калі жонка не корміць. Выпі піўка. Падыхай свежым паветрам. Пагрэйся на сонейку. Паглядзі на прыгожых дзяўчат. Уяві, як мутарна чытаць тваю меланхолію тым змагарам з рэжымам, якія сядзяць за кратамі і не могуць пакуль што выпіць піўка, падыхаць свежым паветрам і паглядзець на дзяўчат.

# «Свабоду Міхаілу Чыгіру»



Фота IREX/ProMedia

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Пад такім лозунгам Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) правяла пазаўчора ў Мінску шэсце і мітынг. У дэманстрацыі салідарнасці з былым прэм'ерміністрам, які зараз знаходзіцца за кратамі, а таксама з астатнімі палітвязнямі, прыняло ўдзел больш за тысячу чалавек. Яны прайшлі без эксцэсаў ад плошчы Якуба Коласа да скверу імя Янкі Купалы, дзе і быў праведзены мітынг, на якім сярод іншых выступоўцаў была жонка экс-прэм'ера Юлія Чыгір. ■

СУДОВЫ ПРАЦЭС

# У «справе Мікалуцкага» сведкам пагражалі, абвінавачаных збівалі

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**«Пасыпалася» справа аб забойстве Яўгена Мікалуцкага. Паводле інфармацыі, якая прасочваецца з закрытага працэса, яго ўдзельнікі адзін за другім адмаўляюцца ад былых паказанняў. Гэта азначае, што на кавалкі разлятаецца версія следчых аб вінаватых у забойстве прэзідэнцкага кантралёра.**

Першы адмовіўся ад сваіх былых паказанняў Анатоль Гаўрылаў. Малады чалавек заявіў, што следчыя збіваннем ды іншымі сродкамі ўздзеяння прымусілі яго даць паказанні супраць сябе ды іншых абвінавачаных. Таксама крыніцы сцвярджаюць, што пра незаконныя дзеянні з боку следчых заявіў Віктар Янчэўскі. Яшчэ адзін удзельнік працэса — сведка Аляксандр Кулікоў не пацвердзіў былых паказанняў супраць свайго знаёмага Рамана Радзікоўскага. Сведка сказаў суду, што пад дыктоўку следчых заявіў пра бандыцкую дзейнасць Рамана нібыта пад кіраўніцтвам «арганізатара забойства» Ткачова. Прычыны, па якой Кулікоў даў хлуслівыя паказанні, простая — следчыя пагражалі яму турмой за ўдзел у бойцы, якая адбылася два гады таму. Сведка ўсё ж пераадолеў страх і заявіў, што ўсе ягоныя ранейшыя заявы наконт Радзікоўскага — паклёп.

Па звестках, гэтыя заявы не засталіся без увагі судовай калегіі пад кіраўніцтвам суддзі Фёдара Чубко. На суд былі спецыяльна выкліканыя следчыя з Магілёва, якія расследвалі справу аб забойстве Мікалуцкага. Следчыя тлумачылі суду, чаму адмаўляюцца ад сваіх паказанняў ўдзельнікі працэсу і адказвалі на пытанне, ці збівалі яны абвінавачаных. Безумоўна, магілёўскія «пінкертоны» заявілі, што пальцам нікога не кранулі. Пабачым, ці паверыў іх словам высокі суд. ■

ПАРТЫІ

# Улада пачала наступ на партыі з камуністаў

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**Апазіцыйная беларуская кампартыя (ПКБ) стала першай ахвярай перарэгістрацыі, арганізаванай уладамі ў адпаведнасці з указам Аляксандра Лукашэнкі.**

Перарэгістрацыя партыяў, прафсаюзаў і грамадскіх арганізацыяў пачалася ў лютым і павінна скончыцца 1 ліпеня сёлета. З сакавіка кіраўніцтва ПКБ перадало ўсе неабходныя для перарэгістрацыі дакументы ў міністэрства юстыцыі, якое павінна было разгледзець іх на працягу месяца. Аднак з часу падачы камуністамі дакументаў мінула ўжо два месяцы, але афіцыйнага адказу ад мінюста партыя так і не атрымала. А днямі начальнік мінюстаўскага ўпраўлення рэгістрацыі грамадскіх арганізацыяў і аб'яднанняў Міхаіл Сухінін паведаміў кіраўніцтву ПКБ, што іхняя партыя перарэгістрацыю не прайшла. Падставай для прыняцця такога рашэння стала палажэнне статута ПКБ, у якім гаворыцца, што партыя з'яўляецца спадкаемцай старой савецкай КПБ. Але, нават калі апазіцыйныя камуністы і згадзяцца змяніць палажэнне аб праваперaемнасці, гэта зусім не азначае, што КПБ будзе без праблемаў зарэгістраваная. Так старшыня дзяржаўнай камісіі па перарэгістрацыі віцэ-прэм'ер Замяталін ужо публічна заявіў, што партыі, прафсаюзы і грамадскія аб'яднанні, якія не прызнаюць канстытуцыю краіны, не маюць права на легальнае існаванне. Такім чынам можа здарыцца, што ўсе палітычныя і грамадскія арганізацыі дэмакратычнага накірунку, якія захоўваюць вернасць прынцыпам Канстытуцыі 1994 года, перарэгістрацыю проста не пройдуць. А тым часам Савет міністраў рыхтуе партыям і рухам яшчэ адзін своеасаблівы «падарунак» пад назваю «новыя правілы перарэгістрацыі». Згодна гэтым правілам, пастанова на ўлік у дзяржструктурах толькі адной пярвічнай партыйнай ці грамадскай арганізацыі будзе каштаваць восем мінімальных заробкаў. Кіраўніцтву ПКБ заплаціць такія грошы будзе надзвычай складана, паколькі ў Беларусі існуе 650 пярвічных і рэгіянальных арганізацыяў гэтай партыі.



Фота Ул.ШЛАПАКА

Сітуацыю, што склалася вакол перарэгістрацыі адной з самых буйных партыяў краіны мы папрасілі пракаментаваць яе лідэра, першага сакратара ЦК ПКБ **Сяргея КАЛЯКІНА**.

— Пытанне вырашэння праваперaемнасці той ці іншай партыі не ўваходзіць у кампетэнцыю міністэрства юстыцыі, гэта поўны абсурд. Іншая справа каб знайшлася нейкая арганізацыя, якая б захацела аспрэчыць нашую спадкаемнасць ад старой КПБ. Але ў такім выпадку павінна быць прызначанае судовае разбіральніцтва. Ад праваперaемнасці мы адмовіцца проста не маем права, паколькі ў 1993 годзе 32-гі з'езд кампартыі Беларусі прыняў рашэнне аб уваходзе старой КПБ у склад новай ПКБ. Тая партыя перадала нам усе свае паўнамоцтвы, таму пытанне спадкаемнасці для нас вельмі прынцыповае. Цяпер з'явіліся самазванцы, такія як КПБ Чыкіна, якія гавораць аб сваіх правах на спадчыну старой кампартыі. Гэта абсалютна новая арганізацыя, якая не мае ніякага дачынення да гісторыі камуністычнага руху ў Беларусі. Далей будзем дзейнічаць па сітуацыі. Вы ж разумееце, што пры гэтай уладзе магчыма ўсё. Я, напрыклад, не выключаю, што ў Беларусі хутка наогул не будзе ніякіх палітычных партыяў. Тыя правілы перарэгістрацыі, якія рыхтуе урад, інакш як варварствам і не назавеш. Вылажыць некалькі мільярдаў за пастаноўку на ўлік 650 арганізацыяў вельмі складана. ■

ЦЫТАТА НУМАРА

**Заканчивается заседание Совмина с участием Лукашенко. Все встают, собирают папки. Александр Григорьевич, обращаясь к министру торговли, говорит: «А вас, Козлов, я попрошу остаться». Остался весь Совмин...**

*Неизвестный **ЧИНОВНИК***
*«Белорусская газета», 24 мая 1999г.*

# Зарплата рабочых паменшылася з 35 да 33 доляраў ЗША

Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН

У красавіку рэальны памер сярэдняй налічанай зарплаты рабочых і служачых у Беларусі знізіўся ў параўнанні з сакавіком на 5,7 працэнта — з 35 да 33 доляраў ЗША ў пераліку па рыначным наяўным курсе. Паводле інфармацыі Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, у красавіку зарплата рабочых і служачых узрасла на 9,9 працэнта — з 12.446.889 да 13.677.894 рублёў. Пры гэтым рынкавы курс долара ЗША павялічыўся за гэты месяц на 17 працэнтаў, а афіцыйны ўзровень інфляцыі склаў 7,4 працэнта. Для параўнання: у красавіку 1998 года сярэдняя налічаная зарплата рабочых і служачых была эквівалентная 74 доларам ЗША, што ў 2,2 раза вышэй за цяперашні ўзровень. ■

# Акцыя працягваецца

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Па паведамленню прэс-цэнтра Хартыі'97 акцыя ў Інтэрнэце, дзе кожнаму наведвальніку сайта www.charter97.org прапаноўваецца адправіць ліст пратэсту прэзідэнту Беларусі, паспяхова працягваецца. За гэты час у акцыі ўжо прыняло ўдзел 108 чалавек, палова з якіх жыхары Беларусі. Досыць вялікі адцятак удзельнікаў з ЗША і Канады.

Большасць наведвальнікаў сайта не называюць сваё прозвішча, абмяжоўваючыся імёнамі, таму, што тыя каментары, якімі адрасанты дапаўнялі ліст, не адрозніваюцца памяркоўнасцю, а фразы тыпа: «...я проста ненавіджу вас за тое, што вы робіце з маёй Радзімай», — зусім не рэдкасць. ■

# Скочка — адзінокі герой?

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Працягам судовага працэсу па абвінавачванні маладафронтаўца Яўгена Скочкі сталі зачытванне абвінаваўчага заключэння і допыт падсуднага.

Згодна абвінаваўчаму заключэнню, зачытанаму суддзёй Камісаравым, Яўген, насуперак рашэнню Мінгарвыканкама, правёў 14 лютага несанкцыянаванае шэсце, якое прывяло да вулічных беспарадкаў, перашкоды руху транспарту, што, на думку следства, адпавядае артыкулу 186 са значком 3 Крымінальнага кодэксу. Цікавымі ў заключэнні былі іх радкі з характарыстыкі Скочка, дзе ён быў названы інтэлектуалам, які не можа рэалізаваць свой патэнцыял, і таму ператвараецца ў адзінокага героя, гэткага змагара за праўду.

На допыце Скочка сваёй віны ў крымінальным злачынстве не прызнаў і патлумачыў, што проста разносіў петыцыі па амбасадах замежных краінаў, у чым, на ягоную думку, складу злачынства няма.

Пасля гэтага пачаўся допыт сведкаў. Вынясенне прыгавору чакаецца прыкладна на наступным тыдні. ■

# Провинившимся иностранцам въезд в Литву запрещен

Отдел информации

Литовское правительство ужесточило правила въезда в Литву для провинившихся иностранцев. В целях активизации борьбы с контрабандой алкоголем, табаком и нефтепродуктами правительство внесло частичные изменения в правила высылки иностранцев из Литвы. Отныне иностранцы, совершившие административные правонарушения в пограничной зоне, должны будут немедленно покинуть Литву, а данные о них сразу же будут заноситься в список лиц, которым въезд в страну запрещен. ■

ПРЭСА

# Друкарня адмовілася друкаваць незалежную газету

Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН

Друкарня горада Жлобін (Гомельская вобласць) адмовіла ў праве друкавацца незалежнай масава-палітычнай газеце «Гомельская думка». Варта адзначыць, што гэта ўжо чацвёртая адмова, атрыманая за 8 месяцаў існавання газеты.

Дырэктар друкарні Віталь Штульман назваў прычынай адмовы вялікую загружанасць прадпрыемства, якая не дазваляе друкаваць раз у два тыдні 1000 асобнікаў «Гомельскай думкі». Разам з тым ён даў зразумець, што ініцыятарам гэтага рашэння з'яўляецца кіраўніцтва абласнога ўпраўлення па друку.

Начальнік упраўлення па друку Гомельскага аблвыканкама Рыгор Сцепаненка, у сваю чаргу, заявіў, што ў вобласці няма магчымасці друкаваць «Гомельскую думку», пасля чаго адмовіўся абмяркоўваць дадзеную тэму.

Паводле звестак БелаПАН, рэдактар «Гомельскай думкі» Уладзімір Вярбовікаў збіраецца друкаваць газету ў Мінску. ■

ПОСТФАКТУМ

# Вінцук Вячорка: «Рашэнні Фронта павінны прымацца ў Беларусі»

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Апошнія падзеі ў Беларускім Народным Фронце хтосьці называе расколам, хтосьці — ачышчэннем. Адзін з тых, хто не падзяляе дзеяннямў лідэра Фронта Зянона Пазьняка, намеснік старшыні БНФ Вінцук Вячорка. Мы папрасілі яго пракаментаваць сітуацыю, якая склалася ў Фронце.**

**— Спадар Вячорка, усё ж такі, якім словам вы назавеце тыя працэсы, што ідуць зараз у Фронце?**

— Зараз ідзе асэнсаванне. Справа ў тым, што некалькі апошніх гадоў партыя адчувае цяжкасці арганізацыйнага плану з-за таго, што існуе два цэнтры прыняцця рашэнняў: адзін, калектыўны цэнтр, тут, а другі, індывідуальны, — на эміграцыі. А статутам ці практыкай такая двухцэнтравасць ніяк не прадугледжаная. Другая ж праблема — з прапановай грамадству яснага шляху. Са стратэгічным накірункам усё зразумела, а вось з канкрэтнымі крокамі ёсць праблемы. На мой погляд, на працягу вядзення выбараў былі моманты, калі Фронт мог значна выйграць, але яны не былі выкарыстаныя.

**— Дык ці згодныя вы, што зараз у БНФ ідзе раскол?**

— Ёсць падзел. Ёсць палярызацыя думак. Палярызацыя гэтая выкліканая тым, што існавалі шанцы не проста спраўдзіць арганізацыйную вартасць Фронта, узняць рэйтынг Пазьняка, які прыняў правільнае рашэнне, згадзіўшыся ўдзельнічаць у выбарах. Але пасля было абсалютна памылковае рашэнне аб зняцці кандыдатуры і аб адкліканні сяброў Фронта з выбарчых камісіяў. Прычым рашэнне Пазьняк прыняў аднаасобна, насуперак рашэнню Сойма!



Фота REX/ProMedia

**— А якая вашая думка наконт працэдуры галасавання, якая давала магчымасць для неабмежаваных фальсіфікацыяў?**

— Я лічу, што Ганчар як арганізатар не справіўся са сваімі абавязкамі. Што ж датычыцца фальсіфікацыяў, то заяўляю, што Фронту нельга ў гэтым удзельнічаць. Палітыка павінна рабіцца чыстымі рукамі.

**— Спадар Вячорка, вы за змену лідэра БНФ?**

— Я ў першую чаргу за змену сістэмы кіравання ў БНФ. Рашэнні павінны прымацца тут, у Беларусі. Гэта адназначна. Яшчэ я хачу дадаць, што разам з гэтым паўстае выбар: ці выходзіць партыі ў рэшце рэшт на шырокае палітычнае поле, ці заставацца далей на тым вузенечкім полі, на якім мы зараз, і атрымліваць тут маральную перамогу за маральнай перамогай. Я не лічу правільным, калі хтосьці замест таго, каб змагацца з Лукашэнкам, усе сілы скіроўвае супраць сваіх апанентаў, але з антылукашэнкаўскага боку. ■

СУСЕДЗІ

# Кучма по белорусским меркам «гол как сокол»

Егор ИВАНОВ

**У президента Украины Леонида Кучмы есть квартира в Киеве, дача в пять соток и зарплата около 1.500 гривен в месяц. Об этом граждане Украины узнали из опубликованной в печати декларации, которую глава государства подал в налоговые органы.**

Президент Украины, принявший решение баллотироваться на следующих выборах главы государства, объявил, что его совокупный доход за минувший год составил 19.213,7 гривен — около $4.800.

В разделе «Сведения о недвижимом имуществе, находящемся в частной собственности» Леонид Кучма декларировал в графе «Земельные участки» общую площадь 510,2 кв. метра, «Квартира» — 350,5 кв м, в разделе «Садовый (дачный) дом» — 63 кв. м. Украинский лидер не имеет собственного жилого дома, гаража, другого недвижимого имущества.

Глава украинского государства, согласно декларации, не имеет в частной собственности транспортных средств, а также вкладов в банках, ценных бумаг и других активов.

К сожалению, белорусы незнакомы с декларацией о доходах своего президента. Мы знаем только с его слов о том, что у него зарплата в 20 млн. белорусских рублей, 30 процентов из которых он когда-то отдавал детям, и что он полностью находится на государственном обеспечении. ■

ВАЙНА

# «Мои отец, дядя и двоюродный брат были среди тех, кого расстреляли сербы»

## Президент Милошевич проводит политику открытого геноцида против собственного народа в Косово

Подготовил Александр СИЛИЧ, Брюссель

**Согласно данных правозащитных организаций, а также собранных воедино показаний свидетелей, на сегодняшний день более чем в 75 населенных пунктах Косово сербской армией и милицией организованы массовые расстрелы косовских албанцев. Существуют неоспоримые факты расстрела более чем 5.000 человек, 55.000 юношей и мужчин в возрасте от 14-ти до 59-ти лет пропали без вести, есть факты изнасилований албанских женщин, пыток и издевательств.**

Пожелавшая остаться неизвестной албанка, которой удалось выжить в кошмаре, именуемый «этническими чистками», дала 21 мая интервью правозащитной организации Human Rights Watch. Эта женщина находилась в деревне Избица в момент прихода сербов – именно в этой деревне зафиксировано пока самое крупное массовое захоронение албанцев.

Сербы пришли поздно вечером во время празднования мусульманского праздника Байрам, 26 марта. К тому времени Избица стала своеобразным местом сбора албанцев со всех окрестных деревень.

Когда мы увидели приближающихся сербов, нам стало страшно оставаться в домах – мы сели на трактора и выехали в поле. Было очень много народа – тысячи людей, в основном женщины, старики и дети. Среди нас было около 150 мужчин. Мы видели, как сербы поджигают наши дома, школу. Потом они подошли к нам. Нам было сказано, что если мы хотим выжить, то должны дать деньги: 1.000 немецких марок с семьи и 100 марок за трактор. Платили все. Каждый мужчина – за свою семью. Мой отец заплатил 1.100 немецких марок.

После того, как сербы получили деньги, они прострелили шины всех наших тракторов, а затем подожгли их вместе со всеми нашими вещами. Потом сербы разделили женщин и мужчин. Всех мужчин выстроили в линию в 20-ти метрах от нас. Женщинам, старикам и детям приказали уходить в Албанию. Сербы все время стреляли, стреляли так, чтобы пули свистели над нашими головами. После того как мы пробежали около 100 метров, сербы нагнали нас и начали выхватывать из толпы мальчиков-подростков 10–14 лет , которых потом поставили в один ряд с мужчинами. Из мужчин с нами остались только совсем маленькие мальчики, один безногий старик и мой брат-инвалид.

Мы остановились, когда услышали пулеметную очередь. Она продолжалась беспрерывно несколько минут. Потом были слышны крики и одиночные выстрелы. Через несколько минут мы увидели группу 10-12-летних мальчиков, бегущих к нам. От ужаса они не могли сказать и слова. «Что там происходит?» – спросили мы их. Вскоре они нашли в себе силы ответить: «Нас отпустили. С остальными все кончено». Все плакали. Мой отец, мой дядя, мой двоюродный брат были среди тех, кого расстреляли.

Через несколько часов, ночью, когда мы отошли от Избицы километров на сорок, вновь появились сербы, которые загнали нас в большую яму возле дороги. Сербские солдаты говорили, что скоро придут танки и «отутюжат» нашу яму так, что все мы окажемся в одной могиле. Когда первый танк приблизился к яме, мы все начали молиться и просить о помощи. Смерть стояла рядом. Мы видели женщин, которые пытались накрыть детей своими телами. Я была в яме со своей матерью и больным братом. Но вдруг неожиданно танки остановились. Сербы сказали нам, что если мы хотим выжить, мы должны им дать 5000 немецких марок. Наша деревенская учительница прошла по кругу, собирая деньги. Я дала ей 100 марок. Когда 5.000 марок были собраны, сербский солдат спрыгнул в яму и забрал их. Потом он сказал: «Теперь вы можете идти».

Недалеко от албанской границы сербские солдаты вновь остановили наш автобус и попросили денег. Они хотели, чтобы ничего «не уезжало» в Албанию, кроме нас самих». ■



Косовар, застреленный в грудь сербскими карателями



Массовое захоронение косовских албанцев. С каждым днем подобных захоронений становится все больше

ВІЗІТ

# Гаварухін прывёз у Беларусь стралка

## Аляксандр Лукашэнка праігнараваў запрашэнне рэжысёра наведаць кінапрэм'еру

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**У Мінску прайшла прэм'ера фільма вядомага расійскага рэжысёра Станіслава Гаварухіна «Варашылаўскі стралок». Карціну прэзентаваў сам аўтар, які спецыяльна дзеля гэтага прыязджаў у Беларусь.**



Па словах С.Гаварухіна, ён зняў «нармальны савецкі фільм» для простых людзей. Маўляў, народ стаміўся ад бездухоўнасці, чарнухі-парнухі, новага расійскага кіно і амерыканскіх падробак. І рэжысёр-дэпутат, які не здымаў мастацкіх фільмаў ужо амаль 10 гадоў, вырашыў ашчаслівіць публіку сваёй новай «высокамаральнай стужкай». Па прызнанні самога рэжысёра, ён кан'юнктуршчык і жадаў толькі аднаго — спадабацца гледачу. Сюжэт карціны вельмі просты і банальны. У правінцыйным расійскім горадзе трое вылюдкаў згвалтавалі дзяўчынку. Бацька аднаго са злачынцаў — начальнік мясцовай міліцыі, і таму справу «замялі». Тады дзед дзяўчынкі, стары салдат і чалавек савецкіх кансерватыўных поглядаў (акцёр Міхаіл Ульянаў) набыў снайперскую вінтоўку, каб самому пакараць гвалтаўнікоў. Сэнс фільма вельмі просты. Паводле Гаварухіна, такое магло здарыцца толькі цяпер, у «новай дэмакратычнай Расіі» з яе рэформамі, карупцыяй, злачыннасцю і г.д. Рэжысёр цудоўна ведае, што ў былым Савецкім Саюзе відныя камуністы не раз адмазвалі сваіх дзетак ад суда, аднак Гаварухін жа не проста мастак, а публічны і апазіцыйны «рэжыму Ельцына» палітык, і павінен адпаведна выхоўваць гледача.

Натуральна, фільм, дзе дабро перамагае зло і злачынцаў чакае справядлівая расплата, не можа не падабацца простым людзям. Загадкавая славянская душа ўвогуле можа доўга спачуваць любімым экранным героям ці з галавой кідацца ў віртуальны свет тэлесерыялаў, і разам з тым не заўважаць, а часам нават ігнараваць просьбы блізкага ці суседа, якому патрэбная дапамога. Вось на такую публіку і арыентаваўся рэжысёр-палітык Гаварухін. Цяперашні думскі дэпутат, па яго жа словах, вельмі любіць здымаць кан'юнктурныя фільмы. Гаварухін узгадаў, як у перабудовачныя часы пасля прагляду яго фільма «Так жыць нельга» людзі ішлі на плошчы паліць свае партбілеты. І тады, і цяпер рэжысёр тонка адчувае, што хоча публіка, і трымаецца на грэбні палітычных хваляў, то антыкамуністычнай, то антыдэмакратычнай. Дарэчы, мінская прэм'ера фільма, знятага рэжысёрам разам з кінакампаніяй «НТВ-Профит» стала часткай рэкламнага турнэ Гаварухіна. Перад прыездам у Беларусь ён дэманстраваў сваю стужку ў Маскве, некалькіх расійскіх гарадах, а таксама ў Кіеве.

Асаблівае стаўленне ў Гаварухіна да кінафестываляў. Ён толькі адзін раз удзельнічаў у падобным мерапрыемстве. Яшчэ ў савецкія часы ён павёз у Эрэван свой тэлесерыял «Месца сустрэчы змяніць нельга». Карціна ўжо два разы прайшла на экранах і мела аграмадны поспех. Гаварухін спадзяваўся, што на фестывалі той сапраўды народны фільм адзначаць хоць нейкім прызам. Але не адзначылі. Пасля гэтага Гаварухін на фестывалі не ездзіць, а серыял пра Жэглова і Шарапава атрымаў самы галоўны прыз — глядацкіх сімпатыяў, і не губляе сваёй папулярнасці на працягу вось ужо 20 гадоў. Наўрад ці такі лёс чакае «Варашылаўскага стралка».

Як ні дзіўна, але Лукашэнка з Гаварухіным так і не сустрэўся, хаця той і з'яўляецца палітычным аднадумцам беларускага прэзідэнта. Лукашэнка часта сустракаецца з менш вядомымі маскоўскімі візіцёрамі, а вось Гаварухіна чамусьці не прыняў і не прыйшоў на прэм'еру. Магчыма, слова «стралок» не спадабалася. Рэжысёр, натуральна пакрыўдзіўся на беларускага лідэра, якому ён накіраваў асабістае запрашэнне прыйсці ў кіно. Але замест Лукашэнкі VIP-месцы мінскага кінатэатра «Кастрычнік» занялі Іван Пашкевіч, Павел Шыпук і іншая чыноўная публіка рангам ніжэй. Гаварухін таксама пашкадаваў, што пры Ельцыне, на жаль, аб'яднанне Расіі і Беларусі ў адну дзяржаву з'яўляецца немагчымым. ■

МІНУЛАЕ

# Каложа должна жить

Наталья РАДИНА

**В Беларуси в скором времени начнутся работы по реставрации известного памятника XII века — Каложской церкви святых Бориса и Глеба в Гродно.**

Каложская церковь в Гродно — замечательный образец творческого переосмысления византийского канона в древнебелорусском зодчестве. Этот древний храм является живым свидетельством существования в XII столетии на Гродненщине самостоятельной архитектурно-художественной школы, где широко использовались местный строительный материал, керамика и элементы народного прикладного искусства. Расположенная на высоком берегу Немана, церковь сохранилась не полностью: ее своды и глава исчезли давно. Южная и частично западная стены обрушились в реку в результате оползня в 1853 году. Полтора столетия назад разрушенную стихией часть храма не реставрировали, а просто отремонтировали с использованием деревянной конструкции.

Автор проекта реставрации Геннадий Лаврецкий считает, что воссоздание первоначального облика древней церкви возможно, однако полная реставрация нередко приводит к возникновению псевдоисторических памятников, как то было в Новгороде и Пскове. По мнению Г.Лаврецкого, единственный в Беларуси удачный опыт воссоздания древнего памятника — церковь Благовещения в Витебске, ровесница Каложской церкви. Там практически полностью разрушенный храм XII века подвергся очень редкому, исключительному методу целостной реставрации. В Гродно другая ситуация. Памятник сам по себе существует, и все усилия должны быть потрачены на сохранение этого памятника.

Так же, как в XIX веке, материалом для реставрации послужит дерево. И совсем не из соображений экономии. Авторы проекта стремятся реставрировать то, что осталось, не домысливая, что было разрушено. Они не ставят перед собой цели создания очередной подделки под старину. Если же делать Каложу в кирпиче, считает Г.Лаврецкий, это может привести к возникновению очередной стилизации «в псевдорусском» стиле — наподобие всех тех строящихся сейчас в Беларуси «московско-ярославских» и «владимирских» храмов, которые не имеют ни малейшего отношения к древней истории белорусского православного зодчества. ■



Так выглядела **Каложская церковь** до разрушения

ПОШТА

# Безопаснось Гавела-диссидента обеспечивали студенты-каратисты

Уважаемые господа! Прочитал статью А.Шидловского «Молодежный радикализм» и хочу присоединиться к мнению автора: молодежь надо объединять вокруг светлой идеи национального освобождения, надо учить ее бороться за свободу, демократию, надо использовать ее радикализм для борьбы за европейскую, демократическую Беларусь. Не надо бросать бомбы, стрелять, жечь, бить, но надо давать отпор новоявленным коричневым. Без этого мы беззащитны. Мы не можем защитить наших лидеров, даже тех, кто находится на свободе. Как можно было допустить, чтобы выкрали Захаренко? Мы что — не имеем исторического опыта, не знаем, как это делается? Вспомним 30-е годы в Германии: полиция на стороне фашистов. Кто давал отпор коричневым? Организованные коммунистами спортивные общества молодежи. Ведь тогда коммунисты не были в Германии у власти и боролись с Гитлером. Вспомним, как охраняли студенты-каратисты Вацлава Гавела. Ведь без этого чешская охранка без труда уничтожила бы будущего президента. Нам не надо отрядов наподобие ИРА или эсеровских боевиков, но отряды молодых крепких ребят, способных дать отпор РНЕ и прочей сволочи, необходимы.

Вспомните тех парней из УНА-УНСО, которые в 1996 году вышли вместе с нами на демонстрацию в день «Чарнобыльскага шляха». Возможно, они в чем-то экстремальны, но не надо в этом следовать им, а вот любить свою Беларусь, как они любят Украину, и ненавидеть красно-коричневую накипь, нам необходимо. А любовь к Родине надо воспитывать. Иначе «любовь» будет воспитана «лукомолом» и РНЕ.

Мы находимся на такой стадии состояния общества, когда нам уже никто не даст возможности сменить власть простым демократическим путем. Наш «всенародно избранный» будет цепляться за власть всеми способами, вплоть до самых кровавых (дай Бог, чтобы я был неправ!). Кровью уже пахнет. И ни Восток, ни даже Запад нам не помогут. Москва поддерживает наш нынешний режим, а на Западе... Вспомните Мюнхен 1938 года и судьбу Чехословакии. Поэтому нужно рассчитывать только на свои силы, а их надо готовить. Ведь будь возле Захаренко 3-4 крепких парня, похитить его было бы не так легко. Кто теперь на очереди?

Я не экстремист, но подставлять шею под топор, думаю, не следует. Бог помогает тому, кто сам себе помогает! Жыве Беларусь! ■

**В.ПОНОМАРЕНКО, Минск**

ІМПРЭЗА

# У Мінску гасцюе расійскі цырк

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**У пятніцу ў Мінску пачаліся гастролі маскоўскага цырка імя Юрыя Нікуліна (раней ён называўся Цырк на Цвятным бульвары). Як паведаміла дырэктар Беларускага дзяржаўнага цырка Таццяна Бандарчук, праграма масквічоў пад назвай «Мы жадаем шчасця вам...» будзе ісці на працягу цэлага месяца.**

У праграме бяруць удзел маладыя цыркачы – гімнасты, жанглёры, канатаходцы. Усе яны прадстаўленыя як «вучні» славутага расійскага клоўна Юрыя Нікуліна. Нягледзячы на тое, што Ю.Нікулін пакінуў гэты свет амаль два гады таму, ствараецца ўражанне, што артысты ягонага цырку дагэтуль не могуць перарасці свайго «вучнёўства» тых, нікулінскіх часоў – асабліва гэта было бачна на прэс-канферэнцыі. «Юрый Уладзіміравіч казаў..», «Юрый Уладзіміравіч лічыў...», «Любімы анекдот Юрыя Уладзіміравіча...» — менавіта такія словы можна было часцей за ўсё пачуць ад «маладых талентаў». А шкада – няўжо ім самім няма што прадставіць журналістам і публіцы?

Я асабіста з павагай стаўлюся да таго, што зрабіў у сваім жыцці гэты Майстар, але катэгарычна супраць ператварэння ягонага імені ў паспяховую гандлёвую марку. А якраз гэта адбываецца цяпер. На афішах, цыркавых праграмах толькі і бачна: НІКУЛІН! – і ягоны партрэт з папугаем.

Цыркачы з Масквы (а разам з імі — і беларускі бок) спрытна абміналі слізкія фінансавыя пытанні, таму дакладная сума – колькі каштавалі месячныя гастролі расіянаў у Мінску – засталася невядомай. Аднак зразумела, што дзеля таго, каб прымусіць капрызных масквічоў зрушыць з наседжанага месца ў «бліжняе замежжа», трэба прапанаваць ім крыху больш за цікаўныя дзіцячыя вочы ў зале і аншлагі. Натуральна, што не абышлося без дзяржаўнай падтрымкі тура.

Як бы там ні было, але прыезд маскоўскага цырка выклікаў зацікаўленасць у жыхароў Мінска. Квіткі (коштам ад 190 да 750 тысяч рублёў) на некалькі першых прадстаўленняў ужо прададзеныя. ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 550 Нумар падпісаны ў друк 25/05/99 (15:00) Наклад — 17.130